

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№3 (сакавік), 2015

# Мяжа




## У Берасьці адзначылі Дзень Волі ля магілы дзеяча БНР

(старонка 11)

## ЗЬМЕСТ

## Мінінфармацыі вынесла папярэджанні тром рэгіянальным газетам

Ва ўсіх выпадках падставай сталі нязначныя дачэпкі да выходных звестак.

Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджанні шэрагу незалежных рэгіянальных газет. Як паведамляе прэс-служба БАЖ, усе папярэджанні грунтуюцца на дробных дачэпках да выходных звестак.

Папярэджанні атрымалі "Газета Слонімская", "Intex-Press" з Баранавічаў і "Ганцавіцкі час". Рэдактары выданняў збіраюцца аспрэчваць папярэджанні ў судзе.

"Газету Слонімскую" вінавацяць у тым, што ў двух лютаўскіх нумарах выдання нібыта не быў пазначаны наклад газеты. Насамрэч рэдакцыя размясціла лічбу накладу на першай старонцы.

"Intex-Press" і "Ганцавіцкі час" атрымалі папярэджанні за тое, што ў выходных звестках падаецца скарачэнне "РБ" замест "Рэспубліка Беларусь".

Дарэчы, пасля двух папярэджанняў на працягу года любы зарэгістраваны ў Беларусі СМІ можна зачыніць праз суд.

http://euroradio.fm/mininfarmacyi-vynesla-papyaredzhanni-trom-regiyanalnym-gazetam

## Юры Рубцоў чакае прапанову працы за годную плату

Палітвязня Юрыя Рубцова, які адбывае пакаранне ў спецкамендатуры № 7 у Купліне Пружанскага раёна, зноў двойчы паспрабавалі ўладкаваць на працу.

Супрацоўнікі спецкамендатуры сказалі, што ён не мае права адмаўляцца ад прапанаванай працы. Але з працаўладкаваннем не атрымалася, кажа Юрый Рубцоў:

- Вазілі ў шпіталь, наколькі я зразумеў галоўны ўрач адмовіўся, бо трэба хадзіць на працу 15 кіламетраў пешшу. Вазілі ў нейкі саўгас, таксама даволі далёка адсюль, што там атрымалася я не ведаю, мне не паведамілі.

З атрыманнем пошты справы наладжваюцца. Пасля таго, як Рубцоў пазваніў на пошту і сказаў, што будзе з імі разбірацца ў судзе, калі і надалей не будзе атрымліваць сваю карэспандэнцыю – сёння

атрымаў 2 газеты.

http://www.racyja.com/hramadstva/yury-rubtsou-chakae-prapanovu-pratsy-za-go/

## Справу бярозаўскай журналісткі адправілі на дапрацоўку



У судзе Ленінскага раёна Берасця прайшоў разгляд справы незалежнай журналісткі з Бярозы Тамары Шчапёткінай

Супраць яе была заведзена новая адміністрацыйная справа за працу без акрэдытацыі на замежны сродак масавай інфармацыі. Журналістку абвінавачваюць у падрыхтоўцы інтэрв'ю з супрацоўнікам ДАІ Сяргеем Мілітовічам для „Беларускага Радыё Рацыя".

Паводле матэрыялаў справы, Тамара Шчапёткіна 8 студзеня правяла з міліцыянтам гутарку, якая пазней з'явілася на сайце радыё. Сённяшні суд вярнуў справу на дапрацоўку:

- Яўна, што гэта справа не міліцыі, але зноў робіцца міліцэйскімі рукамі, як гэта рабілася ў першай справе, якую разглядалі 17-га снежня. Ёсць дакладныя, ёсць інфармацыя сабраная КДБ, мой вялікі фотаздымак, які на „Рацыі" быў, усё пра Бельчукоў, пра тое, што мяне судзілі, як і якім чынам я пакараная. Міліцыянты выконваюць брудную справу.

Гэта не першая справа заведзеная супраць Тамары Шчапёткінай за працу без акрэдытацыі. У снежні летась журналістку ўжо пакаралі штрафам у 30 базавых велічыняў па тым жа артыкуле.

Як паведамляе Беларуская асацыяцыя журналістаў, летась міліцыя ўзбуджала як мінімум 14 спраў у дачыненні да журналістаў за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі. Сёлета таксама ўжо адбыўся суд над журналісткай Алінай Літвінчук.

http://www.racyja.com/hramadstva/spravu-byarozauskaj-zhurnalistki-adpr/

## Берасцейскую журналістку Іну Хоміч выклікае на размову ўчастковы

Спачатку Іна Хоміч збіралася прыйсці да яго сама, але пасля прапанавала прыехаць праваахоўніку. У якасці прычыны для гутаркі ўчастковы назваў дату 5 лютага, кажа Інна Хоміч:

- Пазваніў участковы, прычым не мой участковы, а з таго месца, дзе я раней жыла. Ледзь выцягнула з яго, з якой мэтай сустрэцца. Тады ён ужо ўдакладніў, што яго цікавіць 5 лютага. Я ўвогуле не магла згадаць, дзе я была 5 лютага, што гэта такое. Удакладніў яшчэ раз, што яго цікавіць Моталь. Я дакладна ездзіла ў лютым у Моталь на адкрыццё музея хлеба. Ён сказаў, што я там брала каментар у Кацярыны, як ён сказаў без прозвішча. Гэта яго і цікавіць. Больш нічога не ўдакладняў.

Таксама не сказаў участковы, ці звязана размова з супрацоўніцтвам Іны Хоміч з замежнымі сродкамі масавай інфармацыі без акрэдытацыі.

http://www.racyja.com/hramadstva/berastsejskuyu-zhurnalistku-inu-khomich-v/

## На Берасцейшчыне ўзмацніліся рэпрэсіі супраць незалежных журналістаў

За першыя 2 месяцы новага году распачаты паўторна ўжо 2 адміністрацыйныя справы: супраць Тамары Шчапёткінай і Аліны Літвінчук.

Кіраўнік Берасцейскага аддзялення беларускай асацыяціі журналістаў Алег Супрунюк мае перасцярогу, што рэпрэсіі ў сувязі з будучымі палітычнымі падзеямі будуць ісці па нарастаючай:

- У мяне вельмі непрыемныя адчуванні, чым бліжэй будзе чарговая выбарчая кампанія, тым больш будзе ціск яўны ці не вельмі яўны за журналістамі, якія імкнуцца аб’ектыўна аблюстроўваць

падзеі, якія адбываюцца ў нашым рэгіёне, у нашай краіне.

Грамадскія актывісты і грамадзяне, якім дапамагалі ў цяжкіх сітуацыях незалежныя журналісты, абураны ціскам на журналістаў з боку ўладаў:

- Гэта ўсё адбываецца таму што ідзе чарговая кампанія Лукашэнкі па ягонаму пераабранню. Ён хоча яе правесці, як заўжды “элегантна”. І вось мы бачым гэтыя яго „элегантныя” рэпрэсіі. Зараз жах бярэ ад тых рамак, у якія яго ставяць усіх – і незалежныя прафсаюзы, і незалежную прэсу і проста людзей, якія падняліся з кален і не хочуць на іх зноў станавіцца.

– Я лічу гэта абуральным, у мене суды з уладамі, і мяне ўвесь час абараняюць журналісты незалежныя, і я ім удзячная. Я лічу іх вельмі мужнымі, разумнымі і прыстойнымі людзьмі. Я лічу іх героямі.

Нагадаем справу Тамары Шчапёткінай накіравалі на перагляд з-за знойдзеных недахопаў. Яе вінавацяць за супрацу з замежным сродкам масавай інфармацыі без акрэдытацыі.

http://www.racyja.com/hramadstva/na-berastsejshchyne-uzmatsnilisya-repres/

## У Берасці адбылася сустрэча са Станіславам Шушкевічам



У Берасці адбылася сустрэча беларускім палітычным дзеячом Станіславам Шушкевічам і кіраўніком Прафсаюзу Радыёэлектроннай прамысловасці Генадзем Федынічам.

У цэнтры ўвагі была прэзентацыя новай кнігі Станіслава Шушкевіча ”Маё жыццё, крах і ўваскрошанне СССР” і адказы на шматлікія пытанні ўдзельнікаў сустрэчы.

Агулам зала рэдакцыі газеты „Брэсцкі кур’ер” змагла змясціць

каля чатырох дзесяткаў чалавек.

Станіслаў Шушкевіч лічыць, што асноўнае адрозненне паміж сустрэчай у Берасці і Гародні – гэта тое, што на яе прыходзіць розная мэтавай аудыторыя, аднак ёсць рэчы, якія аб’ядноўваюць гэтых грамадзян:

- Але ведаеце, у іх аднолькавыя жаданні на першым месцы, каб Беларусь была прыстойнай краінай добразычлівых заможных людзей. Мне гэта падабаецца, Можа хоць кроплю ў моры я зраблю – дам добрыя парады, маючы мой досвед.

http://www.racyja.com/hramadstva/u-berastsi-adbylasya-sustrecha-sa-stanis/

## Брэст: акцыя салідарнасці з палітычным зняволеным Мікалаем Дзядком




Падчас акцыі мясцовыя анархісты змясцілі вялікія плакаты з партрэтам Мікалая Дзядка на розных гарадскіх пляцоўках. Такім чынам рабілася спроба прыцягнуць увагу грамадскасці да лёсу палітычнага вязня, асуджанага 26 лютага ў Магілёўскай турме да дадатковага году зняволення.

Акрамя плакатаў брэсцкія прыхільнікі анархізму раскідалі некалькі дзясяткаў улётак і ўсталявалі банер з лозунгам “Свабоду палітвязням і анархістам” насупраць аднаго са шматлюдных прыпынкаў у цэнтры горада. Як паведамілі арганізатары акцыі, яе мэтаю было выказаць салідарнасць з усімі таварышамі, якія знаходзяцца ў турмах і зведваюць рэпрэсіі з боку беларускіх ўладаў.

Нагадаем, Мікалай Дзядок павінен быў выйсці на волю 3 сакавіка ў сувязі са сканчэннем тэрміну адбыцця пакарання, але 26 лютага ён быў асуджаны да яшчэ аднаго году зняволення.

http://spring96.org/be/news/75939

## Прадпрымальнікі Берасця надалей адмаўляюцца гандляваць

Прадстаўнікі малога бізнесу ў Берасці не хочуць гандляваць без дакументаў. Пра гэта заявіла кіраўнік Савету берасцейскага рэчавага рынку ЦУМ Алена Кустус. Яны гатовыя вярнуцца да працы толькі пры ўмове адмены абавязковых сертыфікатаў на прадукцыю лёгкай прамысловаці ў межах Мытнага саюзу, – распавяляла прадпрымальніца:

- Выйдзем на працу, калі штосьці зробяць на нашу карысць, калі перагледзяць пастанову №222 і пойдуць нам насустрач. Па-першае, што такое рэшткі тавараў? Гэта наш не ліквідаваны тавар, які па-сутнасці сваёй – сезонны. У 80% прадпрымальнікаў няма такіх сродкаў, каб зараз увозіць тавар і плаціць такія грошы.

Прадстаўнікі малога бізнесу атрымалі права на гандаль таварамі без сертыфікатаў толькі фармальна, на ўзроўні заканадаўства гэта пакуль не знайшло свайго адлюстравання.

http://www.racyja.com/ekanomika/pradprymalniki-berastsya-admaulyayutstsa/

## На былога палітвязня Аўтуховіча зноў ціснуць



Прадпрымальніка і былога палітычнага вязня Мікалая Аўтуховіча вымушаюць сплаціць абавязковыя страхавыя выплаты ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. Прычым падаткавікі прымушаюць заплаціць за той час, які Аўтуховіч сядзеў у турме.

Былы палітвязень не збіраецца плаціць гэтыя ўзносы, і не выключае, што справу супраць яго давядуць да суда:

- Я не буду плаціць, бо ведаю, што я нічога не вінен і не трэба плаціць. У суд пададуць яшчэ раз, пададуць ізноў, там штосьці апісваць будуць, забіраць – гэта ўжо другі выпадак. У нас пачынаецца судовая справа, санэпідэмстанцыя наклала на нас штраф, які мы павінны заплаціць за тое, што кіроўцы не мелі медычных даведак, якія трэба мець паварам, гандлярам прадуктамі харчавання. Я кажу, што нам гэта не патрэбна, і вось падалі ў суд.

Мікалаю Аўтуховічу было забаронена займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю на працягу пяці гадоў. Пры гэтым ваўкавыскія чыноўнікі сцвярджаюць, што быць прадпрымальнікам Аўтуховічу не забаронена, і што гэты тэрмін забароны на дзейнасць скончыўся яшчэ ў турме. Аднак гэта супярэчыць палажэнням Крымінальнага кодэксу.

Парадоксам і замкнёным колам называе сітуацыю Мікалая Аўтуховіча намеснік старшыні праваабарончага цэнтра „Вясна" Валянцін Стэфановіч. Прадпрымальніка, былога палітычнага вязня прымушаюць заплаціць узносы ў Фонд сацыяльнай абароны за той час, які той правёў у турме:

- На той момант, калі ён сядзеў у турме, ІП яго было зарэгістравана, а цяпер ад яго патрабуюць заплаціць у сацыяльны фонд усе гэтыя выплаты. Паводле прысуду яму забаронена займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю на працягу 5-ці год – увесь час адбыцця яго пакарання і адпаведна пасля заканчэння адбыцця пакарання напрацягу 5-ці гадоў. Тут атрымалася, што закрыць ІП ён не можа, бо ў яго штрафныя санкцыі налічаныя за запазычанасць перад бюджэтам. З іншага боку, ён яе фізічна не мог плаціць у сацыяльны фонд, калі ён знаходзіўся ў турме – замкнёнае кола нейкае атрымліваецца.

Як адзначыў Мікола Аўтуховіч, ніякія ўзносы ён плаціць у падатковую не збіраецца. Ад часу прыняцця ўказа прэзідэнта №87 у лютым мінулага года, індывідуальныя прадпрымальнікі, якія фізічна спынілі сваю дзейнасць, але не афармілі ліквідацыю ІП па законе, вымушаны будуць выплочваць абавязковыя страхавыя ўзносы ў

Фонд сацыяльнай абароны, піша сайт праваабарончага цэнтра „Вясна”.

http://www.racyja.com/hramadstva/na-byloga-palitvyaznya-autukhovicha-znou/

## Валянцін Лазарэнкаў: Спецслужбы ўмешваюцца ў асабістае жыццё



У Белаазёрску, дзе на мінулых парламенцкіх выбарах балатаваўся актывіст кампаніі “Гавары праўду” Валянцін Лазарэнкаў, ля крамаў былі развешаныя ўлёткі, кампраметуючыя актывіста.

Мужу адной з актывістак, быў званок нібы ад жонкі Лазарэнкава, каб разабраўся са сваёй жонкай.

Лазарэнкаў лічыць, што такім чынам зачышчаюць поле перад выбарамі не толькі ад незалежных журналістаў, але і ад актыўных грамадзян, каб застрашыць і прымусіць маўчаць пры цяперашняй вялікай незадаволенасці людзей:

- Гэта спецслужбы ўмешваюцца ў асабістае жыццё, сямейныя адносіны. Апошнім варыянтам застаюцца дзеткі. Яшчэ дзесяць гадоў таму былі лістоўкі, з’яўляліся гэтыя ж самыя фотаздымкі брудныя.

Валянцін Лазарэнкаў звярнуўся ў міліцыю. Але лічыць, што арганізатар шэльмавання знойдзены не будзе. Заказчык вядомы і непадкантрольны, кажа актывіст.

http://www.racyja.com/hramadstva/valyantsin-lazarenkau-spetssluzhby-umesh/

# У Берасьці адзначылі Дзень Волі ля магілы дзеяча БНР




Берасьцейскія актывісты БСДП(Г), партыі БНФ, кампаніі «Гавары праўду», ды іншых арганізацыяў усклалі кветкі на магіле мясцовага дзеяча БНР Адама Трыпуса.

Берасьцейскія актывісты БСДП(Г), партыі БНФ, кампаніі «Гавары праўду», ды іншых арганізацыяў усклалі кветкі на магіле мясцовага дзеяча БНР Адама Трыпуса.

У акцыі ўзялі ўдзел больш за дзясятак чалавек. Прысутныя выступілі з прамовамі, краязнаўца Антось Дацкевіч распавёў пра гісторыю ўтварэньня БНР. Актывісты БСДП(Г) разгарнулі партыйны бел-чырвона-белы сьцяг з ружай. Напрыканцы актывісты выгукнулі «Жыве Беларусь!».

Кіраўнік Берасьцейскай філіі партыі БНФ Зьміцер Шыманскі:

«Мы мусім ушаноўваць Дзень Волі на могілках. Адначасова зараз такі і сьвяточны настрой, і сумны. Але 25 сакавіка — галоўнае сьвята беларускай дзяржавы. У аснове сёньняшняй дзяржавы ляжаць тыя ідэі незалежнасьці, якія былі агучаныя прадстаўнікамі Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе».

Помнік дзеячу БНР, афіцэру і настаўніку Адаму Трыпусу на Трышынскіх могілках Берасьця ўсталявалі і асьвяцілі ў 2008 годзе. З таго часу ў дзень 25 сакавіка берасьцейскія дэмакратычныя актывісты штогод прыходзяць сюды ўскласьці кветкі і ўшанаваць яго



СТР. 4

# ГИМНАЗИСТ ИЗ БРЕСТА СТАЛ ГЛАВОЙ ПРАВИТЕЛЬСТВА БНР

Одна из самых трагических фигур в истории Беларуси – Александр Иванович Цвикевич. Он родился в Бресте, принимал активное участие в создании Белорусской Народной Республики, несколько лет даже возглавлял правительство БНР в изгнании.

Разуверившись в идеях строительства белорусского государства за границей, в 1925 году вернулся в БССР. Принимал активное участие в создании белорусской академии наук. Расстрелян в 1937 году, реабилитирован по вынесенным ему приговорам в 1988 и 1989 го-



памяць.

Сёлетняя акцыя адбылася без інцыдэнтаў і затрыманьняў, на могілках не было заўважана ні міліцыянтаў, ні людзей у цывільным, як у мінулыя гады.

Акрамя ўшанаваньня памяці Адама Трыпуса, берасьцейскія сацыял-дэмакраты ды актывісты «Гавары праўду» раздалі сьвяточны выпуск свайго бюлетэня «За наш горад!», прысьвечаны Дню Волі. Значная ўвага ў газэце аддадзеная яшчэ аднаму дзеячу зь Берасьця — Аляксандру Цьвікевічу, які быў прэм’ер-міністрам ураду Беларускай Народнай Рэспублікі на выгнаньні ў 1923–1925 гг.

Бюлетэнь актывісты БСДП(Г) раздавалі каля старога корпусу Берасьцейскага ўнівэрсытэту, у мінулым — мужчынскай гімназіі, дзе і навучаўся Аляксандар Цьвікевіч.

«Мы рыхтуем зварот і будзем дабівацца ад гарадзкіх уладаў і кіраўніцтва ўнівэрсытэту ўсталяваньня мэмарыяльнай шыльды ў памяць пра Цьвікевіча на гэтым будынку. А таксама — каб у гонар нашага вялікага дзеяча ў Берасьці была названая вуліца», — распавёў Свабодзе кіраўнік Берасьцейскай абласной арганізацыі БСДП(Г) Ігар Маслоўскі.

Таксама напярэдадні Дня Волі ў Берасьці на дошках аб’яваў зьявіліся плякаты з выявай паштоўкі БНР.

http://www.svaboda.org/content/u-bierasci-adznacyli-dzien-voli-lia-mahily-dziejaca-bnr/26920137.html

## Семінар на “Дзень Волі”

25 сакавіка ў Берасці адбылася сустрэча сябраў рэгіянальнай суполкі прафсаюза РЭП.

Праваабаронца Ўладзімір Вялічкін павіншаваў прысутных з “Днем Волі” і правёў семінар па тэме: “Права на атрыманне і распрасюд поўнай і праўдзівай інфармацыі”.

Прысутныя з зацікаўленнем праслухалі няпростую лекцыю, па заканчэнні якой выявілі жаданне навучыцца правільна складаць агітацыйныя матэрыялы каб выкарыстоўваць іх у працы з працоўнымі.




## Замкнёнае кола: каб атрымаць дазвол гарвыканкаму — трэба дамова зь міліцыяй, і наадварот

Праваабаронца Сяргей Гоўша абскарджваў у калегіі Берасьцейскага абласнога суду забарону Баранавіцкім судом пікету на ўгодкі прыняцьця Дэкларацыі правоў чалавека.

У судзе спадар Гоўша даводзіў, што баранавіцкія актывісты ўжо некалькі гадоў ня могуць атрымаць дазволу на масавую акцыю.




Сяргей Гоўша распавёў, што склалася практыка, калі гарвыканкам паведамляе, што пікет забаронены, бо не прыкладзеная дамова зь міліцыяй, а ў міліцыі паведамляюць, што не заключаць дамову, пакуль ня будзе дазволу з гарвыканкаму.

Калегія пад старшынствам судзьдзі Ніны Ўсьцінчук выслухала аргумэнты праваабаронцы, але пакінула ў сіле рашэньне Баранавіцкага суду аб забароне пікету.

Камэнтуючы такі разгляд справы, Сяргей Гоўша сказаў:

«Што тут можна сказаць? Няма незалежнага баранавіцкага суда, няма незалежнага Берасьцейскага суда. І адзін, і другі не зьвяртаюць увагу на Канстытуцыю. Суд кіруецца інтарэсамі мясцовай улады. Відаць, судзьдзям трэба карміць сваю сям’ю».

Каля 6 гадоў баранавіцкія ўлады забараняюць масавыя акцыі мясцовых дэмакратычных актывістаў. Праваабаронцы дабіваюцца зьмены рашэньня гарвыканкаму аб правядзеньні масавых акцыяў у горадзе, але пакуль беспасьпяхова.

http://www.svaboda.org/content/article/26911155.html

## У Бярозе не дазволілі пікет на Дзень Волі

Бярозаўскія праваабаронцы і грамадскія актывісты не змогуць правесці пікет на Дзень Волі 25 сакавіка. Ён чарговы раз забаронены. І чарговы раз мясцовая ўлада ў адной з мэтаў пікету ўбачыла

распальванне нацыянальнай варожасці. Адзін з заяўнікаў, праваабаронца Сяржук Русецкі лічыць прычыну забароны абсалютна надуманай :

– Якая з мэтаў адзначэння 97-х угодкаў абвяшчэння незалежнасці БНР або патрабавання вызвалення палітвязняў з'яўляецца распальваннем нацыянальнай варожасці, самім нам цяжка здагадацца. Не ведаем, у чым з гэтых 2 пунктаў вертыкальшчыкі знайшлі распальванне нацыянальнай варожасці.

Ужо 18-ты год бярозаўская ўлада не дае магчымасці дэмакратычнай супольнасці правесці масавыя мерапрыемствы. Доўгі час нагодай для адмовы была немагчымасць заключэння дамоваў з патрэбнымі службамі. Амаль 2 гады цягнулася змаганне актывістаў за змену рашэння раённага выканаўчага камітэта згодна з пастановай Савета Міністраў, дзе гаварылася, што з міліцыяй дамаўляецца сам райвыканкам. Цяпер адмоўлена ў чатырох пікетах запар, а прычына адмовы – распальванне нацыянальнай варожасці.

Заяўнікі пікету будуць звяртацца ў суд. Хоць дамагчыся станоўчага выніку праз суд таксама няма надзеі.

http://www.racyja.com/hramadstva/u-byaroze-ne-dazvolili-piket-na-dzen-vo/

## У Мікашэвічах узгадалі пра Кастуся Каліноўскага

Мікашэвіцкія сябры сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) і актывісты кампаніі “Гавары праўду” напомнілі жыхарам горада пра 151-ую гадавіну са дня смерці на шыбеніцы нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага. У людных месцах горада былі развешаны партрэты Кастуся Каліноўскага з неўміручымі словамі: “Каго любіш? – Люблю Беларусь! – То ўзаемна!” На іншых улётках з партрэтам Каліноўскага быў надпіс: “Гонар Беларусі!”

Кастусь Каліноўскі – барацьбіт за незалежнасць, нацыянальнае адраджэнне Беларусі, кіраўнік вызвольнага паўстання ад расейскай акупацыі 1863-64 гадоў. Ваенна-палявым судом асуджаны і публічна павешаны на гандлёвай плошчы Лукішкі ў Вільні.

http://www.racyja.com/hramadstva/u-mikashevichakh-uzgadali-pra-kastusya-ka/

## Дзень Волі дазволілі, але перанеслі акцыю на 15:00




Менгарвыканкам дазволіў правядзенне шэсця і мітынгу на Дзень Волі. Дазволены збор удзельнікаў з 15-й да 16-й гадзіны ля кінатэатру „Кастрычнік", шэсце па вуліцы Сурганава да парку Дружбы народаў з 16-й да 17-й гадзіны, і з 17-й да 18-й — мітынг у парку Дружбы народаў.

Адзін з заяўнікаў правядзення шэсця і мітынгу ў Менску на 25 сакавіка, старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч адзначыў, што ўлады патлумачылі змену гадзіны збору клопатам за патэнцыйных удзельнікаў:

- Гадзіна прызначана ўладай з такім улікам, каб у гадзіну пік мерапрыемства пакінула цэнтр горада. Прадстаўнікі гарвыканкаму мелі пры сабе ўжо прынятае рашэнне. Яны, натуральна, ад пачатку спрабавалі нас пераканаць, казалі, як бы вы паставіліся, мы сказалі, што паставіліся б негатыўна, таму што ў працоўны, будзённы дзень зручней для патэнцыйных удзельнікаў было б больш позні час. Пазней мы запыталі: дык рашэнне яшчэ абмяркоўваецца, ці ўжо прынятае. Нам сказалі, што насамрэч рашэнне ўжо прынятае.

Акцыя пройдзе пад бел-чырвона-белымі сьцягамі. Асноўны лёзунг — „Разам за мір і незалежнасьць!". Традыцыйна ўлады пазначылі, што нельга выкарыстоўваць незарэгістраваную сымболіку, а таксама транспаранты, якія супярэчаць заканадаўству. Таксама ўлады заклікалі трымацца асноўнай заяўленай тэмы, а менавіта — угодкаў прыняцця Трэцяй устаўной граматы БНР.

http://www.racyja.com/palityka/dzen-voli-dazvolili-ale-peranesli-ak//

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»